II—1913. Жнівень—Верэсень. 16-ая кніжка.




## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала
**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**



Падпісная цана на 1 год **1 р. 20 кап.** на 6 месяцоу **60 кап.**, за перамену адрэсу **20 кап.** Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Віленская 29.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40 к.**, за тэкстам **20 к.** За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Годъ II—1913. Жнівень—Верэсень. 16-я кніжка.

САХА першы беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.



# Культура расьлінау.

Выражляючы сваю зямлю і сеючы на ёй, наш хлебароб амаль ніколі не спадзяецца ня толькі на добры ўраджай, але нават і на сярэдні. У думках яго так ужо зложылося, а нераз і з языка сарвецца; „о, каб ды ўдалося, каб ды ўрадзіло!“

Як бачыце, ўся надзея на ўдачу, у сваю-ж працу, у сваю работу—веры німа ніякай. Дрэнная ўжо тая работа, калі яе сам работнік ня цэніць і не спадзяецца атрымаць за яе добрай заплаты. А чаму так? бо не мае пэўнасьці, што работу гэту ён добра зрабіў.

Тым часам, калі вырабка нашай зямлі была акуратная, т. е.: на пару загарана, ў пару забаранавана, добра угноена і так сама ў пару і добра очышчаным зернем засеяно,—сьмела можэм мець пэўнасьць, што работа наша дарма не прападзе і ўраджай, не зважаючы на макрату, ці сухату, а будзе. Трэба токькі, каб кожны гаспадар усю работу сваю вёў акуратна і сьвядома. Трэба ведаць, як змагацца іншым разам і з засухай і з макрынёй. А дзеля гэтаго кожны хлебароб павінен слядзіць за поступам навукі ў новых способах гаспадаркі.

Само сабой разумеецца, ня кожнаму даступна ня толькі навука, але нават і грамата; тады прыходзіцца шукаць іншай рады: селяне нашые павінны закладаць—арганізовываць гаспадарскіе гурткі, ўцягіваць туды людзей сьветлых, паступовых, каторые маглі-б на сходах гуртка і прачытаць, і растлумачыць усім што, дзе і як робіцца, чаго трымацца, зважаючы на мейсцовые варункі, ў сябе.

Так сама трэба канешна старацца ў вокрузе свайго сельска-гаспадарскаго гуртка завесьці хоць адно пробнае поле, на каторым прытасовываць усе новые способы гаспадаркі, прабаваць новые машыны, новые насеньня і. т д. і. т. д.

Як гэта важна і патрэбна, мы можэм лёгка перэканацца, прыгледючыся з году ў год сваім і суседнім ураджаям. Для прыкладу возьмем хаця-б апошні сёлетні год.

Агульна бяручы, жыта сёлета не ўрадзіло: і саломай, і ўмалотам—слабое. Прычынай гэтаго лічуць неўдалую мокрую леташнюю восень, каторая мейсцамі не дала нават адсеяць усяго жыта, а так сама нарэкаюць на сёлетнюю сухую вясну.

Нарэканьне хоць і справядлівае, аль само нарэканьне нічога не паможэ: трэба ў пару шукаць рады; трэба ўмець бараніцца і знайсьці ратунак у кожнай бядзе.

Што гэтаго можна дабіцца, паказывае нам тое-ж самае

сёлетняе жыто, каторае мейсцамі вельмі было ўдалое. Вось тут і трэба дашукацца прычыны, чаму на адным і такім самым грунце, побач—пры адных і тых самых, значыцца, кліматычных варунках,—у аднаго гаспадара ўрадзіло, у другога—прапало.

Прычын, разумеецца, мо быць некалькі: і выробка зямлі акуратнейшая, і мо інакш угноена яна, і само насеньне лепшае, і т. п., але найважнейшая прычына была адна. Леташніе васеньніе дажджы прыхляпалі жытнюю рунь, — земля выгледала, як замазана. Сёлетняя сухая весна засушыла гэтую замазаную зямлю, дык яна зрабілася зьверху бытцам пакрытая заскарузлым кажухом, праз каторы ня было, ды і ня магло быць ніякога доступу паветра ў нутро зямлі, а. значыцца і да карэньнёў руні. А вядомая рэч, што ні адна с паміж расьлінаў пры гэтких варунках добра узрастаць ня можэ. Каб жэ як зараіць гэтай бядзе і паправіць справу, трэба было з вясны бязпрыменна рунь пабаранаваць. Зрабіць гэта дагадаліся толькі сьвядомые і практычные гаспадары, і гэтым ня толькі далі яны доступ паветру ў нутро зямлі, але ешчэ і затрымалі так важную і патрэбную падчас сухой вясны зімовую вільгаць, бо праз прыхляпаную, забітую зямлю вільгаць куды хутчэй выпаровывае, чым праз узрушаную бараной.

Пасьля баранаваньня, праўда, — жыто выгледае, бытцам пажванае і з няпрывычкі іншы гаспадар можэ падумаць, што зглуміў сваю збажыну, але праз дні 3—4 ўжо так яна аджывае, так пачынае узрастаць, кусьціцца, што ані пазнаць, а на другім тыдні робіцца зелянейшай, большай і гусьцейшай шмат куды, чым расьліна нечэпаная бараной і здаецца бытцам у гэту збажыну, барануючы, падсеялі сьвежаго зерня, каторае цяпер пачынае узрастаць. Хоць можна было і такіе прыпадкі бачыць, што ў аднаго і таго самаго гаспадара, каторы аднастайна завіхаўся каля сваей ральлі, а жыто выйшло на адным кавалку зусім добрае, на другім—прапало. Гэта ўжо прычыну такога з'явішча прыходзіцца шукаць у самым складзе грунту: ў насна Беларусі часта-густа бывае, што зямля розніцца ня толькі на вялікіх ад сябе абшарах, але нават на аднэй і тэй самай дзесянціне можна спаткаць некалькі яго адменаў.

З бульбай бывае ешчэ горш. Найчасьцей трымаюцца ў нас такога звычаю: першы раз барануюць, як яна пакажэцца з зямлі; пасьля — калі ўжо добра падыймецца — абганяюць, ды ўсьлед барануюць, а як бульбяньнік ужо ладны, ешчэ раз абганяюць, ды апраўляюць яго рукамі. Але найгоршая бяда у тым, што гэту работу не зайсёды спаўняюць тады, калі яна дужа патрэбна для бульбы, а, адкладаючы з дня на дзень, бяруцца за яе, калі выпадзе свабаднейшы час. Усякая работа, каторую робяць не сьвядома, а толькі абы з рук збыць, карысьці вялікай, разумеецца, не дасьць. Удасца добры—спрыяючы да узросту бульбы год—тады і тандэтная работа выратуе, а надойдзе такі,—як летась, ці сёлета, калі—вядома—ў пару—трэба споўніць ту, ці іншую работу каля бульбы,—вось і мала тады знай-

дзецца такіх гаспадароў, каторые патрапілі-б ратавацца ў бядзэ.

Сёлетняя бульба, агульна бяручы, з вясны паказывала добра, але, калі пачаліся частые дажджы, пасьля засела: бульбяньнік пачаў чарнець, бульба гнісьці, і толькі мейсцамі—ў некаторых гаспадароў яна ўдалая.

Найважнейшая работа каля бульбы — гэта падхапіць момэнт, калі яе трэба пабаранаваць, ці абагнаць, і на якую глыбіню.

З вясны, як толькі пасадзяць бульбу, не раз бывае, што ўлье вялікі дождж, а пасьля стане на пагодзе. Ад гэтаго зямля, замазаная перш дажджом, пасьля заскарупее, а праз гэткую кару вельмі цяжка абходзіць бульбе; вось тут і трэба, не чэкаючы, калі пачне бульба паказывацца,—пусьціць першую барану. Праз узрушаную зямлю бульба і хутчэй, і раўней абойдзе. Абганяючы-ж бульбу, нельга браць зразу глыбока, а толькі за кожным разам паглыбляць барозны і, апраўляючы кусьцік бульбы, зямлю трэба старацца насыпаць копчыкам у сярэдзіну кусьціка, разгінаючы яго і прыкрываючы што найвышэй самые цыбукі бульбы, бо на гэтых цыбукох, дзе іх прыкрые зямля, будуць новые завязі бульбы і гэткім парадкам павялічываецца ўраджай.

Калі ідуць частые дажджы і вада замывае барозны, прыходзіцца часьцей і глыбей абганяць бульбу, зважаючы, каб у барозных ня было дзе трымацца вадзе. З гора-бяды лепш ужо нават аджалець колькі кустоў зглуміць бульбы, але, калі таго патрабуе спад вады, то барозны паганяць хоць і папярэчные, хоць і наўскось. У вокал пасаджэнай бульбы парабіць глыбокіе разоры, або раўкі і да іх падаваць спады, каб туды сьцягівало ваду. Увесь гэты заход дзеля таго рабіцца, каб бульбу ратаваць ад лішніцы вады, ды каб яна не загнівалася.

Вось, дзе гаспадар рупны і сьвядомы, мы і сёлета бачым удалую бульбу, а на гэткіх самых землях — у іншаго гаспадара і зусім прапала.

Сёлетняя ярына — ня дрэнная, але які колечы немец, ці амэрыканец, то пэўна-б яе не пахваліў, а мы і з гэткай уроды цешымся.

Вось, гэта, бадай, найбольшая наша і беда, што мы ня прывыклі да добрых ураджаеў, нават не дабіваемся іх, а здаволены бываем абы чым, здаўшыся больш на Боскую ласку, чым спадзеючыся на свае сілы і працу.

А тым часам, праўду кажучы, ня столькі вінавата наша зямля, не так ужо вінаваты і суш, ці макрыня, колькі вінаваты мы самі.

Перш на перш найбольш кульгае ў нас сама вырабка зямлі. Не зваліваючы ўсей віны на старасьвецкіе нашы гаспадарскіе прылады, як саха, ці барана, бо, пастараўшыся, і імі ня згорш можна вырабіць зямлю, найбольш трэба зьвярнуць ува-

гу, калі мы аром, калі барануем: бяромся мы за гэта толькі тады, калі ёсьць час.

Не раз такіе работы, каторые мы можэм прырыхтаваць загадзя—зімой, мы пакідаем, аткладаем, і ў рабочы час—мест сахі, ці бараны, ў нас ідзе нейкая майстэрка; каб зарабіць рубля — едзем мы ў горад з дрыўмі, або ў фурманкі, трацім колькі дзён самаго дарагога рабочаго часу, не падумаўшы аб тым, што спазьніўшыся з работай на полі, пагнаўшыся за адным рублём, — дома — ў гаспадарцы — праз гэта мы трацім іх неколькі.

Гною, ня толькі ня ўмеем (ці, бадай, ня хочым, або лянуемся) прыспорыць, але і той, каторы маем, — па якому-ж мы з нім абходзімся, колькі яго глумім, марнуем! Аб гэтым столькі разоў ужо пісалося, што тут і паўтараць не варта. Іншы і сам добра разумее, што дрэнна робе, але, выгараджываючы сваю віну, ўсё звалівае на тое, што часу нехват.

Сеўба і насеньне—гэта так сама адны з найгоршых нашых балючак.

Дзеля саломы, ды каб мышы збожа не псавалі, наш хлебароб стараецца скончыць сваю малацьбу што найхутчэй. Адабраўшы толькі мякіну, ды самы горшы пасьлед, зерне і лепшае і горшае мешае разам і сыпе яго ў аруд. На вясну-ж гэткім зернем і сее. Якога-ж ураджаю можна спадзевацца ад такога насеньня? Разумеецца, ледзь пятае, чэраз дзесятае каліўе абойдзе, ды і з гэтых абышоўшых—большая палова—расьлінкі зусім слабенькіе, бо слабенькае было само насеньне і змагацца с кліматычнымі варункамі да узросту — яны не маюць сілы. Тым часам насеньне зела, катораго мы самі шмат высеваем разам з добра не ачышчэным збожам на поле,—як вельмі



Арфа звычайная ад 28 рубл.



Арфа бяз сітау ад 22 рубл.

жывучае—хутка узрастае і прыглушывае слабейшую ад сябе расьліну. Вось і гіне і наша праца, і наша зямля, а насеньне з году ў год што раз горшае і слабейшае.

Хочучы-ж ад гэтаго бараніцца, мы ўсё свае збожэ ешчэ з восені—пры малацьбе павінны раз і другі прапусьціць праз

арфу. Арфуючы другі раз, калі ідзе само толькі ўжо зерне, арфу круціць трэба шмат хутчэй, тады адыходзе лепшае — буйнейшае зерне. Але і гэта ешчэ не канец. Каб мець як мае быць чыстае і самое адборнае насеньне, прапушчэнае праз арфу зерне, трэба ешчэ пусьціць праз іншую арфу, каторая зусім не мае сітоў. а толькі ветрам аддзеляе самае лепшае зерне ад пусьцеўшаго (такая арфа прадаецца ў сельска-гаспадарскіх складах і каштуе ня дорога. Аднэй такой машыны досыць на ўсю вёску, дык варта купляць хаўрусна). Вось гэтак ачышчэнае зерне трэба і захаваць на насеньне, а што ад яго астанецца, толькі тое ўжываць на расход.

Цяпер аб самай сяўбе. Усім вядома: чым гусьцейшая сеўба, тым цянейшая і меншая будзе салома, а колас драбнейшы; чым сеўба радзейшая, тым таўсьцейшая і вышэйшая салома і даўжэйшы колас, а ў ім — буйнейшае зерне. Прыказка нават такая зложылася: хочэш саломы—сып гусьцей, хочэш зерня — сей радзей.

Не зважаючы на гэта, якжэ часта нашы селяне сеюць і погуста, і дробным, дрэнна ачышчаным зернем, праз што і самае зерне ў нас ужо вырадзілося.

Сеяць трэба заўсёды ў меру, але лепей радзей,, чым гусьцей і то самым буйнейшым зернем. Хто веець ручной веялкай, той павінен звеяное зерне раздзяліць на палавіну: дальшае — як буйнейшае — адабраць на сяўбу, а бліжэйшае пакінуць на свой ужытак: сеяць яго не варта, бо ў ім шмат рознаго зела і слаба яно абыходнае, дык шмат яго прападае ў ральлі, а каторае і абойдзе, дык вырастае слабое.

Самая найлепшая сеўба — гэта машыновымі сеяўкамі. Сеяўкі бываюць дваякіе: разсыпные, каторымі насеньне разсыпаецца па ральлі, як рукой, толькі садзіцца яно раўней, і сеяўкі радовые. Вось гэтые радовые сеяўкі і ёсьць самые лепшые ма-



Разсыпная сеяука ад 85 рубл.

шыны да сяўбы. Яны ня то што сеюць, а садзяць кожнае зерне засобку, на якую хаця глыбіню і на якую хаця рад ад раду шырыню.

Паступовые гаспадаркі ўжо даўно сеюць толькі добра

очышчаным зернем і толькі радовымі сеяўкамі, ніякая іншая сеўба с каторымі ня можэ зраўняцца.

Пры радовай сяўбе можна ўсякую збажыну, так як бульбу, абганяць плужком, або абматыковываць, толькі трэба настаўляць сеяўку на шырэйшые рады. Але каб праз меру широкімі радамі не займаць шмат мейсца—каб менш пуставала зямлі, сеяўку настаўляюць так, каб яна садзіла зерня у два рады побач, а паміж імі робяць на 12—15 цаляў водступы. Гэтак сеючы, і радоў будзе болей і між кожнымі двума засеянымі радочкамі досі мейсца, каб свабодна праехаць с плужком.

Збажына, пасеяная радамі, куды лепш расьце і дае большую урадлівасьць як у саломе, так і ў зерні (не кажучы ўжо аб тым, што насеньня шмат меней выходзе), дый так разрастаюцца гэтые палосы, што пасьля і знаку мала, дзе былі самые рады. А прычынай гэтаму тая, што пры радовай сяўбе — да расьліны маюць большы доступ паветра і сьвету, без каторых ніякая расьліна ня можэ добра разрастацца; апрача таго, абганяючы рады, поле рабіцца чысьцейшым ад рознаго зела, ды абсыпанае зямлёй у пару збажына лепш і болей граніцца.



Радовая сеяука ад 148 рубл.

Праўда, на гэткіе машыны патрэбны грошы і то не малые, але тое, чаго ня можэ асіліць адзін чэлавек, можэ даць рады грамада. Ужо цяпер вёскі, або аколіцы хаўрусна купляюць даражэйшые машыны і толькі дзякуючы ім работа зроблена бывае і акуратна, і на пару.

У некаторых мейсцах земствы прысылаюць безплатна на колькі гадоў розные машыны на пробу; іх стаўляюць на пэўные пункты і там уся аколіца, ці вёска мае права карыстаць з гэтай выгоды, а перэканаўшыся з вялікай карысьці новых спосабаў гаспадаркі, гаспадары пасьля купляюць ужо на сваю руку.

Пры цяперашняй даражыні рабочых рук, толькі і можна пры помачы машын і накладу вясьці добра даходную гаспадарку, бо цэны на ўсё падняліся страшэнна; а хто думае поркацца ў зямлі па даўнейшаму, той нехай не нарэкае на суш, на макрыню, на нехват часу, на неўдалы год, а нарэкае на самога сябе.

**А. Бэнэцэвіч.**

*Лайково.*
*1913 г.*

# Як таней гадавацъ целят.

Датскі вучоны гаспадар Іэнс Іэнсэн, выпрабаваўшы ўселякіе спосабы, як выгадней гадавацъ целят, падае свае цікаўные рады, ў каторых выказывае, што найлепей і найтаней ня трымацъ пры матцы цялё, а зразу—ад першаго дня адсадзіць яго і паіць павэдлуг пэўнаго выпрабаванаго сыстэму *). Уся справа найважней у тым, каб даглёд быў акуратны, чыста хадзіць каля пасудзіны, паіць у аднаковых водступах часу, ды каб само пойла ня было халоднае, а мело-б ня менш 35 градусоў цепла павэдлуг градусьніку Цэльзія.

Як толькі карова ацеліцца, трэба пільнавацъ, каб цялё ані разу не папрабавало маткі, тады яно зразу возмецца піць з вядра.

Першаго і другога дня трэба паіць па 5 разоў у дзень: на 3-ці, 4-ты і 5-ты—па 4 разы у дзень, а ўжо пасьля па тры разы у дзень.

Праз увесь першы тыдзень трэба даваць целяці што дня па $1^1/_2$ гарн. добраго малака.

Праз першые 4 дні другога тыдия — даваць па 2 гарн. добраг0 малака; а праз апошніе тры дні гэтаго-ж тыдня—па $1^1/_2$ гарн. добраго і па $^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака, апрача таго на дзень дадаваць па $^1/_8$ фунта льняных жмыхаў.

Праз першые 4 дні 3-яго тыдня—па гарнцу добраго малака, па гарнцу—зьбіранаго і па $^1/_8$ фунта льняных жмыхаў. а праз апошніе тры дні—па $^1/_2$ гарн. добраго малака, па $1^1/_2$ гарн. зьбіранаго і па $^1/_4$ фунта льняных жмыхаў.

Праз увесь 4-ты тыдзень даваць па аднэй кварце добраго малака, па гарнцу і 3 кварты—зъбіранаго і па $^1/_4$ фунта льняных жмыхаў.

Праз 5-ты тыдзень—па $2^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака і па $^1/_2$ фунта льняных жмыхаў.

Праз 6-ты тыдзень—па 2 гарн. і 3 кварты зьбіранаго малака і па $^3/_4$ ф. льняных жмыхаў.

Праз 7-мы тыдзень—па 3 гарнцы зьбіранаго малака і па фунту льняных жмыхаў.

Праз 8-мы тыдзень—па $3^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака і па $1^1/_2$ ф. льняных жмыхаў.

Праз 9-ты тыдзень—па $3^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака і па $1^1/_2$ ф. льняных жмыхаў.

Праз 10-ты тыдзень—па 3 гарнцы і 3 кварты зьбіранаго малака і па $1^1/_2$ ф. льняных жмыхаў.

Праз 11-ты тыдзень—па 4 гарн. зьбіранаго малака і $1^3/_4$ ф. льняных жмыхаў.

---

*) Павэдлуг гэтаго сыстэму рабіу я пробы гадоулі целят у дварэ Лапухі п. Людвіка Наркевіча—Іодкі. Целяты выгадаваліся вельмі добра.

*Аутар.*

Праз 12-ты тыдзень—па 4 гарн. зьбіранаго малака, па 2 ф. жмыхаў і $^1/_8$ аўса на дзень.

Праз 13-ты тыдзень—па 3 гарн, 3 кварты зьбіранаго малака, па 2 ф. жмыхаў і па $^1/_4$ ф. аўса.

Праз 14-ты тыдзень—$3^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака, па 2 ф. жмыхаў і поўтары цьверьці аўса на дзень.

Праз 15-ты тыдзень—па 3 гарн. зьбіранаго малака, па $2^1/_4$ жмыхаў і па $^1/_2$ ф. аўса.

Праз 16-ты тыдзень—па $2^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака, $2^1/_4$ ф. жмыхаў і $^5/_8$ ф. аўса.

Праз 17-ты тыдзень—па 2 гарн. зьбіранаго малака, $2^1/_2$ ф. жиыхаў і па $^3/_4$ аўса.

Праз 18-ты тыдзень—па $1^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака, па $2^1/_2$ ф. жмыхаў і 1 ф. аўса.

Праз 19-ты тыдзень—па 1 гарн. зьбіранаго малака, па $2^1/_2$ ф. жмыхаў і па $1^1/_4$ аўса.

Праз 20-ты тыдзень—па $^1/_2$ гарн. зьбіранаго малака, па $2^1/_2$ ф. жмыхаў і па $1^1/_2$ ф. аўса на дзень.

Добрым малаком—лічыцца проста ад каровы—не зьбіранае. Праз першые два тыдні трэба даваць целяці малако ад яго маткі, а пасьля можна даваць хоць ад якой каровы, абы толькі сьвежае.

Зьбіранае малако трэба сперша упарыць — ажно каб загатавалося і на кожны гарнец гэтаго малака усыпаць па $1^1/_2$ лыжачкі звычайнай крэйды.

Льняные жмыхі сперша даюцца разбаўтаўшы іх з малаком, а пасьля, як ужо цялё пачне есьці авес, сухіе жмыхі мешаюць разам з аўсом. Авес трэба даваць ня меляны, а тоўчаны у ступе.

На трэцьцім тыдні цялё павінна заўсёды мець у сваім катусе самае лепшае сено і чыстую ваду. І сено, і ваду што дня зьменяць на сьвежае.

Кожны дзень цялё трэба выпушчаць на гадзін 6 -- 8 на сьвежае паветрэ ў якую колечы загародку, каб яно магло там набегацца.

Цяпер падлічым, колькі будзе каштаваць корм целяці праз першые 5 тыднёў. З'есць і вып'е яно праз гэты час: 30 гарнцоў добраго малака, $335^1/_2$ гарнцоў—зьбіранаго, 3 пуды 5 фунтаў льняных жмыхаў і 1 пуд і 5 фунтаў аўса. Пераве́ўшы гэта на грошы, выйдзе:

| | |
|---|---|
| 30 гарн. добраго малака па 15 к. . . . | 4.50 |
| $335^1/_2$ „ зьбіранаго „ „ 3 к. **) . . . | $10.06^1/_2$ |
| 3 п. 5 ф. льняных жмыхаў па 1 р. п. . . . | $3.12^1/_2$ |
| 1 п. 5 ф. аўса па 90 к. п. . . . . . . . . | 1.01 |
| Разам за 5 месяцоў . | 18.70 к. |

**) *Ад рэдакцйі.* Нам здаецца, што па 3 капейкі гарнец хоць бы сабе і зьбіранаго малака, дастаць трудна. У нас—па вёсках пакуль што ешчэ так скупа малака, што самі нават гаспадары-селяне найбольш ужываюць для сябе толькі зьбіранае малако. Але, калі лічыць кошт яго хоць бы у двая болей, то усё-ж ткі німа рахунку гадаваць цялё пры карове.

а кожны месяц абойдзецца, значыцца, па 3 р. 74 к. Калі-ж цялё трымаць пры матцы і лічыць што будзе высысаць яно хоць бы толькі па два гарнцы у дзень, то праз месяц вып'е яно 60 гарнцаў добрага малака; лічучы так сама гарнец па 15 кап.— выпадае на месяц 9 рублёў. Розніца ў кошце на столькі вялікая, што хіба німа чаго і гаварыць, як выгадней гадаваць цялё.

*Інструктар млечнай гаспадаркі.* **Л. Папроцкі.**

---

# Гарох.

Ранные з восені маразы за апошніе годы не мала робяць шкоды ў нашай гаспадарцы. Пршходзіцца кідацца на розные способы, каб як усьцерагчыся ад большых стратаў.

Гарахі, асабліва гатунковые, як ведама, дасьпяюць позна, дык іх часта захопліваe мароз, або дажджыстая восень, як гэта, прымерам, было летась, і не дае як сьлед дасушыць іх, а самае лепшае зярнё вылушчываецца.

Бывае ешчэ з нашымі гарахамі і іншая беда. Пасеяные на добрым мейсцы, растуць, цьвітуць і завязываюць лапатачкі ажно да познай восені. Але, калі на канцы доўгай — у колькі аршынаў—расьліны паказываюцца што раз новые і новые кветкі і лапаткі,—поўныеісподніе ранные струкі, з буйным ужо, хоць ешчэ не дасьпеўшым зернем, лежучы на зямлі,—падгніваюць і прападаюць за нішто, і ўмалот з гэтага на вока ўдалага гароху бывае найчасьцей зусім слабы.

Есьць, праўда, способ усьцерагчыся ад гэтаго ўпадку: сама расьліна гароху—яго вусы—ясна нам паказываюць, што гарахвіны вымагаюць і на гэта прыспасоблены, каб на што колечы апірацца. Што сама натура, сам склад гарохавай расьліны гэтаго патрабуе, можэм ешчэ перэканацца, калі прыгледзімся дзе і як расьце дзікі гарох.

Дзікі гарох расьце на добрых, тлустых лугох, дзе паміж густога мурагу трапляецца шмат розных высокіх траў, як мятліца, цімафейка, канапелька і т. п. Узрастаючы побач гэткіх траў, дзікі гарошак вусікамі сваімі хапаецца за ніх і, гэтак аплёўшыся, выцягіваецца ў гару; калі-ж бывае, што гэтаго апірышча у бліскасьці мала або зусім німа і гарохавы кусьцік кладзецца, то кладзецца, ён не на голую вільготную зямлю, а на густы, што пад нім і ў вокал яго расьце мурог і гэткім парадкам расьліна астаецца здарова — не падгнівае.

Як вядома, па лугох расьце найбольш гарошак жоўты і сіні (фіалетовы), але ёсьць ешчэ рознакалёрны гарошак, каторы расьце па лясох, асабліва, дзе грунты вапенные.

Тут ўжо і гаварыць німа чаго, што такі гарошак мае сабе

вялікую выгоду, бо ў лесе апірашча для сябе знайсьці яму ня трудна.

Вось гэтые прыклады і вучаць нас, чым і як найлепш мы можэм дагадзіць да добраго узросту гарохавых расьлінаў. Само сабой разумеецца, што калі мы сеем гарох на чыстым, добра выробленым полі, то там ніякога апірашча для сябе гарох знайсьці ня можэ і яму прыходзіцца самому сабе, як кажуць, падаваць рукі (вусы). Гэткім парадкам, хоць і падтрымлівае, ён сам сябе, але толькі у самых вярхох расьліны, а за тое гэтым верхнім цяжарам націскае ісподнюю часьць расьліны, каторая і кладзецца на голую падапрэўшую ад густога прыкрыцьця зямлю, ад чаго ўся іспадняя частка гарохаваго сьціблу—інщым разам на 1—2, а то і болей аршыноў — падгнівае і ўсе яго лісточкі, лапатачкі і струкі, сапрэўшы, апаўзаюць; застаецца-ж толькі ні на што ня згодны моцна зрудзеўшы, або і зусім пачарнеўшы голы гарохавы сьцібел, на вярху катораго трымаецца некалькі лапатачак і струкоў, дык ня дзіва, што з гэткаго гароху умалоту добраго ня будзе.

Ведаючы і памятаючы ўсё гэта, мы цяпер лёгка зразумеем, што каб мець добры ураджай гароху, трэба прыдумаць такіе способы, каторые забязпечылі-б ісподніе струкі гароху ад гніцьця.

Некаторые гаспадары, сеючы гарох, дамешываюць сумысьля крыху аўса, ці ячменю, каб потым расьліна гароху мела за што ўчапіцца, мела для сябе анірышчэ і не так клалася на зямлю. Памагае, праўда, гэта, але ня многа: нельга-ж ані аўса, ці там ячменю ўсеваць многа, бо яны высмокчуць для сябе пажыўные сокі з зямлі, і узрост самога гароху будзе слабы, а пасеяны зрэдзь—авес, ці ячмень ня зможэ утрымаць усяго напору такой цяжкой расьліны, як гарох.

Вось гаспадары-практыкі пачалі сперша прабаваць на невялікіх кавалачках зямлі. засеянай гарохам, ставіць тычкі так, як гэта робяць для фасолеў. Гарох быў вельмі удалы і надта стручны. Каб ешчэ лепш выпрабаваць і пераканацца рабілі ешчэ і так.

На роўным вялікім кавалку поля, засеяным гарохам, у колькі мейсцах маленькіе кавалачкі с паміж засеянаго палетку пазастаўлялі тычкамі, а большую часьць—пакінулі так — бяз тычак. І што-ж паказалося? Сперша гарох скрозь роўна ішоў, але, калі стаў выцягівацца ў гару, цьвісьці, ды завязывацца, там—дзе тычак ня было –расьліна асела, стала вылегаць і, разумеецца, ўся іспадняя завязь пайшла у глум—падгніла; дзе-ж былі тычкі,—гарох, пачапляўшыся за іх, трымаўся стойма, а завязі было паўнюсенька знізу ажно ў верх і, калі ў восень сабралі і вымалацілі гарох па асобку т. е. з усіх кавалкаў-дзе былі тычкі—асобна; і с такога-ж самага абшару поля бяз тычак--ізноў асобна, — то паказалося, што пляц с тычкамі даў у 12 разоў болей умалоту, чым гэткі самы пляц бяз тычак. Ці

заўсёды будзе гэткая розніца -- згадаць трудна, але што яна ўсё-ж-ткі будзе—то пэўна.

Але ешчэ справа у тым, колькі будуць каштаваць гэтые самые тычкі? Само сабой разумеецца, каб аблічыць кошт тычак—трэба ведаць мейсцовые варункі, бо ўсё ад ніх залежыць. Тычкі могуць быць з рознаго шатэр'ялу: арэшнік, вольха, асіньнік, сукі ўселякіе, асабліва яловые і т. п., зважаючы, дзе што таней і лягчэй дастаць.

Пры гэтым іншым разам двух зайцаў, як кажэ прыказка, зразу можна забіць. Па нашых лугох—сенажацях шмат ешчэ дзе можна убачыць гібель зарасьнякоў: не кажучы ўжо аб лазьнякох, часта-густа седзяць, разпаношыўшыся, кусты арэшніку, альшэўніку і т. п. Апрача шкоды для самой травы, ад ніх нічога добрага не прыжджэш, а выцерабіўшы іх, можна і тычак сабраць, і сенажаць ачысьціць.

Але, як бы танна не абходзіліся тычкі, ўсё-ж ткі заставіць імі ладны кавалак, засеяны гарохам, зямлі—клопат і кошт выпадзе немалы. Дык вось, некаторые гаспадары прыдумалі рабіць іначэй: мест ставіць тычкі, іх кладуць на невысокіх вілачках, уторкнутых у зямлю.

Робяць гэта так. Перш-на-перш, ешчэ з восені пакуль не ляжэ сьнег (дзеля лягчэйшаго доступу да кустоў), а работа на скончыцца, трэба брацца прырыхтовываць матэр'ял і на вілачкі, і на тычкі.

Вілачкі можна так сама, як і тычкі, вырэзаць з рознаго дрэва: асіны, вольхі, арэшніку і т. д. Рэжуць іх па вяршкоў 12 даўжыні, мяркуючы, каб у вярху былі два (можэ быць і больш) вілкаватые гукі; словам, гэтые вілачкі зусім падобны да падпоркаў, якіе ўжываюцца да фруктовых дрэваў; усей толькі розніцы, што яны карацейшые.

Адно толькі ешчэ трэба памятаваць, што з якога-б ні былі дрэва вілачкі, ці тычкі—іх трэба канешна акарыць (праз зіму доўгімі вечэрамі і доднікамі гэта зробіцца неўзнак), бо інакш яны хутка патрухлеюць.

Вясной—як толькі гарох пасеяны і запаханы, стаўляюць, утыкаючы ў зямлю, вілачкі радочкамі так далёка адны ад другіх, абы толькі тычкі, каторые павінны мець па аршынаў 3 — 4 даўжыні, канцамі сваімі даставалі вілачак. На ніх і кладуць тычкі—сперша-ў доўжкі, а пасьля — ў поперак.

Гарох, узрастаючы, завісае на лежачых тычках і хоць у вышкі так ня пойдзе, як па стаячых тычках. але і на зямлю не ляжэ, бо мае такое-сякое сабе апірышчэ дык і глуму менш, бо не так будзе падгніваць.

Есць ешчэ спосаб, як выкарыстаць такое зерне, як гарох, каб мець з яго чым найбольшы даход.

Вядомая рэч, што лапаткі на гаросе пачынаюць сперша завязывацца знізу, а пасьля ўжо ідуць у гару. І калі на вярху расьліны ешчэ толькі паказываюцца лапатачкі, вайсподзе — вісяць ўжо поўные, хоць ешчэ і ня зусім сьпелые, струкі.

Вось гэтые ісподнie струкі, каб не паглуміліся—не пагнілі, пакуль дойдуць верхніе лапатачкі, можна абрываць, вылушчыць каліўя і сушыць іх.

Сушыць трэба вось як. На кожную кварту вылушчанаго гароху сыпяць адну сталовую лыжку дробнаго (пясковаго) цукру і заліўшы гэта вадой, гатуюць на агні, пакуль гарох ня пусьце шмат соку; тады выбіраюць яго на сіто і сушаць, калі спрыяе пагода, на слонцы, або на бляхах у печцы. Трэба толькі зважаць, каб сам гарох быў не перасьпеўшы.

Гэтак акуратпа і чыста высушаны на зялёна гарошак у гарадох—па крамах, а то і так на рынку купляюць на расхват і плацяць такіе грошы, што, каб гэты самы гарох дайшоў на пні і, вымалаціўшы—прадаць яго звычайным зернем, то мо' ледзь сёмую долю выручыў-бы таго, што можна ўзяць за сушоны. А трэба ешчэ памятаваць і на тое, што мы выкарыстаем як раз тые струкі, каторые бяз тычак, лёгка могуць паглуміцца.

**Лю-цэк.**

---

# Віленская выстаука хатняго рэмесла.

У Вільні цэлы верэсень месяц аткрыта выстаўка хатняго рэмесла і народнаго штукарства. Выстаўка арганізавана вялікая: ёсць вырабы з губэрній Віленскай, Мінскай, Вітэбскай, Мегілёўскай, Гродзенскай і Ковенскай. Багата панасылалі усялякіх вырабоў на выстаўку, але болей за ўсё рознаго тканьня.

Усюды на сьвеці селяне зімой займаюцца рознымі рамесламі, толькі у аднэй старонцы выробляюць розные рэчы для сябе, а у другіх на промысел, на прадажу. У нас гэтак сама, як прыйдзе зіма, мужчыны бяруцца сёе-тое майстраваць: начоўкі, лыжкі, граблі, сельска-гаспадарскае начыньне, а кабеты садзяцца прасьці. Толькі відаць бабская майстэрка у нас спарнейшая, як мужчынская, прынамсі на выстаўцы болей вырабоў зробленых жаноцкімі рукамі, ды і работа жаноцкая сціпнейшая ад мужчынскай. Есць шмат такога тканьня на выстаўцы, што люба паглядзець, а мужчынская работа дужа недбалая; нават у ганчарцы і то беларускіе бабы загналі мужчын: цацкі гліняные нейкай кабеціны з Ракава спрытней зроблены ад гаршкоў тамтэйшых мужчын—ганчароў. Выстаўка багатая, многа ўсяго—усякаго, але адразу відаць, што народ наш, калі і умее што зрабіць, то робіць толькі на сваю патрэбу, а не на прадажу, не на промысел.

Тымчасам кожнае рэмясло можэ даць ня згоршы заработак гаспадарскай сямьі ў зімовы час. У вялікарасеі хатняе, прамысловае рамесло дужа развіта і там народ добра зарабляе гэтым. Нашы-ж людзі, калі мяркаваць з выстаўкі, выходзіць, што

дужа недбалы, бо заместа таго, каб самім вырабляць на прадажу ўсякіе патрэбные у хаці рэчы, ну хоцьбы замкі, клямкі, завесы і др., купляюць усё гэта гатовае, зробленае у другіх старонках. А з гэтаго выходзіць такі інтэрас: да нас прывозяць людзі сваю працу, а ад нас вывозяць грошы, а як нашаму чэлавеку запатрэбяцца грошы, то прэць у Амэрыку, ў гарады, ў задушные фабрыкі. Гэткі парадак благі, гэтак жыць нельга. Трэба умець самім у сваім краю для сябе усё зрабіць, умець на мейсцы прадаць сваю працу і знайсці збыт на яе па за граніцамі свайго краю, каб ад нас вывозілі нашу працу, а да нас слалі грошы. Відаць, што у нашым краю ёсць німала здольных людзей, але німа развітнасьці, німа таго спрыту да куплі і прадажы,адным словам німа купецкай жылкі. А гэта жылка нам болей чым каму іншаму патрэбна, бо мы народ не багаты, наша земля ня лішне урадліва і са стараны заработак кожнаму гаспадару патрэбен.

У народаў рабскіх, нявольных ёсць у характэры адна дужа благая рыса, гэта тое, што яны лічуць працу нешчасьцем, а шчасьцем—нічога не рабіць; культурные народы іначэй кажуць: „час—гэта грошы" і кожную мінуту яны стараюцца выкарыстаць каб нешта зрабіць. Во відаць і у нас ешчэ ня вы- дохся нявольны прыгоніцкі дух, бо нашы вырабы дужа недбалые; жаноцкіе лепшые, але мужчынскіе роблены так, што відаць што людзі гэтые робяць абы з рук зваліць. Нават для сябе калі што зроблена,—груба — неўдала. На старасьвецкіх беларускіх вырабах відаць, што людзі любілі працу і хоць жылі паднявольным жыцьцём, але у іх душы было болей волі, болей высокаго, прыгожаго. Цяпер, як той казаў, кожны прэ у паны, а панства разумее словам і паняцьцем „нічога нерабіць", і па панску гаварыць. А з гэтаго выходзіць тое, што і ад зямлі адрываюцца людзі і ў неба не трапляюць. Вытвараецца духоўная і матэр'яльная тандэта ва ўсім: і ў вырабах рук, і ў паступках, у душы і ў думках.

А мае наша Беларусь багата доброга, старога, што трэба было-б развіць і над чым працаваць далей. Перш за усё нам трэба не чурацца нашаго старасьвецкаго, а наадварот, рукамі і нагамі трымацца яго; пасьля працаваць над тым, каб свой родны край узбагаціць, а узбагаціць яго можна асьветай і працай, ды толькі такой асьветай і працай, катора ня будзе адбіваць, а лучыць людзей сваім родным, старым—прадзедоўскім. Выстаўка сёлетняя у Вільні багата дала матэр'ялу да пазнаньня вырабоў нашаго краю, трэба мець надзею, што да другой выстаўцы знойдуцца ешчэ лепшые рэчы на паказ людзям і ня толькі на паказ, але і на прадажу.

Ю. В.

# Выстаука у горадзе Радашковічах (Віленск. губ. Вілейск. пав.)

Рэдактарам беларускаго сельска-гаспадарскаго месячніка „Саха“ 15-го Жніўня г. г, была арганізавана першая выстаўка скаціны і тканіны ў г. Радашковічах.

На награды за скаціну Віленскае Таварыство Сельскай Гаспадаркі назначыло 100 рублёў, а на награды за тканіны — тутэйшы пан—Снітко афяраваў сваіх 25 рублёў.

На выстаўку прывялі 19 штук скаціны, а рэшту—трымалі на рынку і па заездах; не ўцяміўшы, відаць, добра, якое значэньне мае такая выстаўка.

Награды далі: С. Гражэвічу с Старынак, Язэпу Рудому с Клімонтаў, Янцы Шэрэнцэвічу з Вялікаго Села, М. Сычу з Максімаўкі, Т. Тымку з в. Гуі, Т. Шэрэмэту з Умені, Андрэю Барану з Максімаўкі.

За тканіны раздалі награды 12-ці кабетам. Першую награду атрымала Агата Кудрашова с Сэрбіна с пад Ільі, другую—Марыля Баран с Клімонтаў.

Сама выстаўка была зроблена без усякіх прыладоў і без ніякога на яе кошту: скаціну прывязывалі пры назначэным мейсцы да плоту, а кабеты сабраліся са сваімі вырабамі каля дзявочага вучылішча.

Р.

---

# Капыльская выстаука.

У жніўні месяцы ў мяст. Капылі (Мінск. губ. Слуцк. пав.) адбылася аднадзенная сельска-гаспадарская выстаўка.

Конеў прывялі на выстаўку больш соткі, паміж каторых было найболей рабочаго тыпу, але добра узгадаваны, дагледжаны і як відаць, селяне старающца і не жалеюць накладу падправіць свой мейсцовы гатунак конеў—заводнымі. Шмат каму досталіся награды: апрача 100 рубл. і 4-х мэдалёў, прысланых ад гасударственнаго конназаводства для раздачы паміж мейсцовых заводчыкаў—селянаў, ім давалі ешчэ, як награды і розные гаспадарскіе машыны.

За тое рагатай скацінай Капыльская выстаўка пахваліцца ня можэ: прывялі ўсяго 14 штук, і то с паміж іх 7 штук было з двара Бабоўні п. Трусколяскай, і 3 штукі-з Гожэвіч п. Даманскай, а значыцца, селянскай скаціны ўсяго было 4 штукі: 3 быкі і карова. А тым часам, мне самому — як выбранаму у экспэрты па скатаводству давялося перад выстаўкай аб'ехаць 2 толькі вёскі і то знайшоў я там болей 40 штук скаціны, здатнай на выстаўку. Чаму іх не прывялі?

Свіньнеў—так як і зусім ня было, бо толькі двое парасятаў с Падгорцаў п. Станіславы Аколавай. А так сама бачыў я па вёсках вельмі цікаўны гатунак аднакапытных палескіх свіньнеў і ня кепскіх мешанцаў з англійскімі.

Насеньне і расьліны, кармовые травы і буракі, сабраные паміж селянаў земскім аграномам і п. Аколавым—выглядалі на выстаўцы вельмі цікаўна. Пры кожных прабках—паказах было выпісано колькі і якіх фабрычных парашкоў ужывалося на дзясяціну і колькі гэта дзесяціна выдала зерня і саломы. Апрача таго, з двара Бабоўні было на ўзьдзіў вялікае — болей сажня вышыні—Данькаўскае жыто.

Дужа здобные былі тканіны, сабраные па вёсках п. Аколавай.

Шмат каго зацікавілі на выстаўцы дрэны с цэманту і трубы для мастоў.

Пасьля паўдня былі паказные пробы з некаторымі гаспадарскімі машынамі. Па сумысля параскіданай саломе пусьцілі




Капачка да бульбы ад 140 рубл.
(Крыж са шпагату, каторы скідае бульбу у граду, цяпер — як паказала практыка, лепш аднімаць.

машыновые „граблі-разьбівачкі“. У момэнт часу салома была зграблена ў вал, а пасьля ешчэ яе падвярнулі. Гэткім парадкам можна было бачыць, як гэта машына працуе на сенакосах.

Потым у прыкасьцельным садзе капалі так сама машынай (фабр. Бамфорда і Гардэра) бульбу.

Народу на выстаўцы, асабліва селянаў, было вельмі многа і да ўсяго с цікаўнасьцей і ўвагай прыгледаліся.

*Інструктар скатаводства*

**Папроцкі.**

---

# Дробные рады.

## Крапіва для кур.

Крапіва—як корм для кур — вельмі карыстна: калі яны маюць яе пад дастаткам як найпазьней з восені, то такіе куры пад вясну шмат раней пачынаюць нясьціся.

Запасіць крапіву трэба так. У позную восень, калі крапіва ўжо прамерзне, нізенька зрэзаюць яе і вяжуць у невялікіе пучочкі. Калі надойдуць ужо такіе халады і золь, што куры праз цэлы дзень седзяць у катуху, ім прылажываюць пучкі крапівы так, каб яны лёгка маглі даставаць скубсьці насеньне і лісточкі гэтаго свайго прысмаку.

Найлепш убіць нізкі колік па сярэдзіне катуха, ці перад самым катухом і вешаць на ніх пучкі крапівы верхамі ў ніз. Куры вельмі ласы да гэткай яды і, як было сказана, раней пачынаюць нясьціся.

## Шчауе на зіму.

Хто хочэ мець праз усю зіму для сябе шчаўе, трэба яго з восені намарынаваць.

Назьбіраўшы шчаўя, дробненька яго пасеч, зважаючы аднак, каб сам сок не сьцекаў, а тады туга напыхаць яго у чыстые бутэлькі і заткнуўшы моцна коркам, абліць яго лякам, ці смалой, каб не праходзіў каля корку воздух. Бутэлькі са шчаўем трэба паставіць у сухім, халаднаватым мейсцы, як напрыклад у склепе. Стаяць яно там можэ праз усю зіму — ажно да сьвежаго.

Добра замарынованае шчаўе ахвотна купляюць па гарадох і плацяць за яго добрые грошы. *Куч-ая.*

---

Усім падпішчыком „Сахі“ пры гэтым нумеры дарма разсылаецца кніжка:

**„Як рабіць добрые рамовые вульлі.“**

---

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вільня.